# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 11 (890) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 18 САКАВІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.


# „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73”

**25** лютага гэтага года ў памяшканні Галоўнага праўлення адбыўся фінальны агляд «Беларуская песня — 73».

Агляды «Беларуская песня» карыстаюцца вялікай папулярнасцю, а гэтыя словы паўтараю за аўтарам мінулагодняй справаздачы з цэнтральнага агляду. Аднак карыстаюся імі таму, што ў гэтым годзе зацікаўленне цэнтральным аглядам было настолькі вялікае, што не толькі зала і калідор былі заняты да апошняга месца, але 2/3 ахвотных гледачоў вымушана было адыйсці ад дзвярэй канцэртнай залы з прычыны недахопу месц. Не маем даных адносна колькасці гледачоў на павятовых аглядах, аднак факт, што ў павятовых аглядах ў 1970 годзе прыняло ўдзел усяго 32 асобы, у 1971 — 70 асоб, у 1972 г. — 125, а ў 1973 аж 158 аматараў-спевакоў, сведчыць сам за сябе.

Як і ў мінулым годзе, спраўна і ўмела вяла канцэрт Валя Філіпюк.

Ацэнкай паасобных спевакоў і калектываў, іх мастацкага ўзроўню і падборкі рэпертуару займалася журы пад старшынством Веслава Дзюбінскага, доўгагадовага супрацоўніка БГКТ у галіне музыкі і спеву.

У цэнтральным аглядзе прыняло ўдзел 96 асоб: 16 салістаў і 22 вакальныя калектывы. Кожны з выступаючых абавязаны быў выканаць па дзве песні.

Першую ўзнагароду ў катэгорыі салістаў журы прызнала Аляксандру Бандаруку з Ляўкова, Гайнаўскага павету, дзве другія — Неаніле Харкевіч з Ласінкі, Гайнаўскага павету, і Аляксандру Раманюку з Дубяжына, Бельскага павету, а трэцюю — мінулагодняй лаўрэатцы другой узнагароды — Зофіі Цацэрка з Баброўнікаў. У групе дуэтаў першую ўзнагароду атрымаў дуэт з Орлі, Бельскага павету — Яўген Балло і Мікалай Лапух, а другую — дуэт Ніна Мушынская і Надзя Парэмбская з Гарадка, Беластоцкага павету. Надзвычай цікавымі аказаліся вакальныя калектывы. Першую ўзнагароду «выспяваў» квартэт з Плёскаў, Бельскага павету, дзве другія — жаночая група бельскага хору і мужчынская група з Дубяжына, Бельскага павету, а трэцяе — жаночы калектыў з Новай Волі, Беластоцкага павету.

Журы адзначыла таксама мастацкае майстэрства, арыгінальнасць выканання і падборку рэпертуару выканаўцаў фальклорнага калектыву з Арэшкава, Гайнаўскага павету, жаночага квартэта з Тапчыкал, Бельскага павету, і Анны Стахвіюк з Трасцянкі, Гайнаўскага павету.

Аматары-спевакі далі багаты і каляровы пяцігадзінны канцэрт. Характэрнай рысай сёлетняга агляду «Беларуская песня» была вялікая колькасць мужчынскіх калектываў. Высокі мастацкі ўзровень салістаў і калектываў гэта таксама адна з асноўных рысаў конкурсу.

Аднак найвялікшым багаццем была ўпершыню так шырока паказаная рэгіянальная фальклорная песня. Выступалі з імі старэйшыя жанчыны з Тапчыкал, Арэшкава і Новай Волі. Песні аб студзеньскім паўстанні спявалі мужчыны з Дубяжына, а дуэт з Орлі заспяваў песню з грамадскай тэматыкай «Собралася бедна голота». Аказваецца, што ў нашым народзе

(Працяг на стар. 4)



*Яго прыгожы, лірычны голас захапіў публіку і журы: пераможца «Беларускай песні — 73» у катэгорыі салістаў Аляксандр Бандарук.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 28 лютага члены этнаграфічнай камісіі ГП з удзелам старшыні ГП Міколы Самоціка падрыхтавалі праект перадачы пад дзяржаўную адміністрацыю беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, які атрымае памяшканне па прыродназнаўчым музеі. У праекце гаворыцца, між іншым, аб неабходнасці ўтварэння яшчэ двух аддзелаў — археалогіі і гісторыі.

■ 2 сакавіка на чарговым пасяджэнні прэзідыума ГП БГКТ старшыня ГП Мікола Самоцік прачытаў праект даклада на набліжаючыся пленум, які будзе прысвечаны працы аддзелаў з актывам і які адбудзецца 1 красавіка. З прапановай увядзення некаторых паправак, даклад быў зацверджаны. Затым кіраўнік культурна-асветнага аддзела Валянціна Філіпюк прадставіла статыстычна-апісную справаздачу аб дзейнасці паасобных аддзелаў БГКТ у 1972 годзе. Далейшым пунктам пасяджэння былі справы музея ў Белавежы. Прысутныя разгледзелі праект прапаноў членаў этнаграфічнай камісіі адносна перадачы экспанатаў музея пад адміністрацыю акруговага музея ў Беластоку і падрыхтавалі ў гэтай справе пісьмо да Прэзідыума ВРН. Прэзідыум ГП разглядаў таксама некаторыя кадравыя справы Беларускага таварыства.

■ 2 і 3 сакавіка кінаперасоўкай ГП дэманстраваліся два савецкія фільмы «Сыновья уходят в бой» і Бриллиантовая рука» ў Клюковічах, Вульцы Нурэцкай і Снежках у Сямяціцкім павеце.

■ Пасяджэнне Прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ (2.III.) у Беластоку адбылося супольна з членамі рады клуба і актывістамі аддзела. Было пастаноўлена аднавіць раду клуба, падрыхтаваць «рэгуляміп клуба», каляндар мерапрыемстваў і супольна апрацоўваць планы працы праўлення аддзела. Прысутныя ў шчырай размове выказалі шмат заўваг адносна дзейнасці клуба. Затым прэзідыум разгледзеў 16 дэкларацый, падпісаных асобамі, якія выказалі сваё жаданне стаць членамі БГКТ. Усе яны былі прыняты ў рады нашай арганізацыі.

■ Нядаўна член праўлення гайнаўскага аддзела БГКТ Іван Цыванюк згодна з прыдзеленымі яму абавязкамі абслужыў сходы гурткоў БГКТ у Луцэ і Тарнопалі. А член праўлення Аляксандр Харкевіч быў на сходзе гуртка БГКТ у сваёй вёсцы Ляшукі. У гэтых гуртках усе члены БГКТ у 100% аплацілі членскія складчыны за 1973 год.

■ Па ініцыятыве гайнаўскага аддзела БГКТ арганізавана спаборніцтва паміж пісьманосцамі па паве-

(Працяг на стар. 3)

БЕЛАРУСКАЯ П'ЕСА Ў БЕЛАСТОЦКІМ ТЭАТРЫ

# ВЯЛІКІ ПОСПЕХ МАКАЁНКАВАГА „ТРЫБУНАЛА”

Дзяржаўны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, каб адзначыць 50-ую гадавіну заснавання СССР, вырашыў паставіць савецкую п'есу. Гродзенскія сябры падказалі кіраўніцтву беластоцкага тэатра пацікавіцца «ТРЫБУНАЛАМ» Андрэя Макаёнка. Гэтая п'еса выдатнага беларускага сучаснага драматурга якраз у той час заваёўвала тэатры Беларусі, Літвы, Расійскай федэрацыі і іншых савецкіх рэспублік. П'еса змястоўная, па-народнаму разумная і па-народнаму вясёлая. Максім Танк з трыбуны VI з'езду Саюза пісьменнікаў Беларусі сказаў, што ў ёй аўтару ўдалося найважнейшае: ён змог паказаць высокі, нікалі не пагасаючы патрыятызм і аптымізм простых людзей ды бязмежную сілу геройства народа і яго непадкупныя адносіны да ворага. Іншы выдатны беларускі пісьменнік Іван Шамякін гаварыў, што аўтар «Трыбунала» шукаў тэмы для сваёй п'есы не ў кніжках, а сярод народа, дзе вельмі часта геройскае і сур'ёзнае пераплятаецца вясёлым і смешным.

Дык вось і мы маем магчымасць пазнаёміцца з Макаёнкавым «Трыбуналам». У Беластоку ён проста штурмам авалодаў сэрцамі жыхароў горада. Яшчэ крытыкі і рэцэнзенты не паспелі адтрубіць пахвальных гімнаў у адрас Макаёнка, а ўжо яго слава разнеслася вуснай поштай. І вось каторы ўжо дзень у касе тэатра не застаецца аніводнага білета. У Беластоку не часта такое бывае.

Я глядзеў «Трыбунал» у звычайны, рабочы дзень — у аўторак. Думаў, што сустрэну там так званую «арганізаваную публіку», якая нярэдка запаўняе тэатральную залу, бо не хацелася мне верыць, што вось так, па свайму жаданню беластачане выкупляюць усе білеты на гэты спектакль.

Не, арганізаванай публікі на зале не было. Гэта адразу кідаецца ў вочы. Яе запаўнялі людзі розныя па ўзросту і прафесіі.

Адкрылася заслона. Мы ўбачылі стылізаванае абсталяванне сялянскай беларускай хаты. Гэта заслуга мастака Эльжбеты Хояк. У хаце — беларуская сялянка Паліна, ролю якой іграе тут актрыса *Марыя Хадэцкая*, і Зіна, нявестка Паліны, якую прадстаўляе *Эва Радзікоўская*.

(Працяг на стар. 3)



*Адна з апошніх сцэн Макаёнкавага «Трыбунала» ў выкананні калектыву Беластоцкага тэатра. Злева: Крыстына Алясевіч (Галя), Эва Радзікоўская (Зіна), Анна Бараноўская (Надзя), Вітальд Галонзка (Цярэшка) і Мар'я Хадэцкая (Паліна).*

*Фота Ст. Дукевіч*

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА Ў ЧССР

У сувязі з тым, што ў сакавіку 1973 года канчаецца тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі, Прэзідыум Федэральнага сходу ЧССР прыняў рашэнне склікаць 22 сакавіка сумеснае пасяджэнне народнай палаты і палаты нацыянальнасцей Федэральнага сходу ЧССР для выбараў прэзідэнта рэспублікі.

У адпаведнасці з канстытуцыйным законам аб чэхаславацкай федэрацыі прэзідэнта ЧССР выбіраюць на сумесным пасяджэнні абедзве палаты Федэральнага сходу ЧССР.

### МЕНШАЯ АПЛАТА

Паводле даных Міжнароднага бюро працы, розніца ў зарплаце мужчын і жанчын складае ў Францыі 17,1 працэнта, у Швецыі — 24 працэнты, у ФРГ — 31,3 працэнта, у Японіі — больш за 50 працэнтаў. У ЗША за кошт недаплаты жанчынам за працу, роўную мужчынскай, прадпрыемцы атрымліваюць да 40 працэнтаў дадатковага прыбытку. Негрыцянкам плоцяць у два разы менш, чым белым жанчынам, і на тры чвэрці менш, чым мужчынам. Закон аб роўнай аплаце мужчынскай і жаночай працы, прыняты ўрадам ЗША ў 1964 годзе, фактычна не ажыццяўляецца. У Англіі такі закон павінен уступіць у дзеянне толькі ў 1975 годзе.

### ПАД СУД

Члены палесцінскай тэрарыстычнай арганізацыі «Чорны верасень», якія захапілі 1 сакавіка пасольства Саудыйскай Аравіі ў Хартуме і забілі трох дыпламатаў, узятых імі ў якасці заложнікаў, будуць аддадзены пад суд.

### КІРМАШ У БРНЕ

Фірмы і прадпрыемствы 32 краін прымуць удзел у чацвёртым Міжнародным кірмашы тавараў шырокага спажывання, які адбудзецца ў Брне (Чэхаславакія) з 7 па 15 сакавіка гэтага года.

### ПРЫЁМ БРЭЖНЕВЫМ ПАСЛА ЯПОНІІ

Японскія газеты на першых старонках змясцілі паведамленне аб прыёме Генеральным сакратаром ЦК КПСС Л. Брэжневым пасла Японіі ў СССР, падкрэсліваючы, што Генеральны сакратар ЦК КПСС упершыню прыняў афіцыйнага прадстаўніка японскага ўрада.

Прыём Л. Брэжневым японскага пасла, адзначыла «Токіо сімбун», разглядаецца ў Японіі «як праяўленне таго, што Савецкі Саюз надае важнае значэнне Японіі».

### СІСТЭМА «МІР»

Дваццаць высокавольтных магістральных ліній электраперадачы, якія працягнуліся на многія тысячы кіламетраў, агрэгаты агульнай магутнасцю больш чым 58 мільёнаў кілават — такая цяперашняя магутнасць аб'яднанай энергетычнай сістэмы «Мір» еўрапейскіх дзяржаў — членаў СЭУ: Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі і Савецкага Саюза. Яе галоўная задача — у найбольш поўнай меры і з найменшымі стратамі задавальняць патрэбнасці ў энергіі народных гаспадарак брацкіх краін. (ак)



## БССР

### 1973 ГОД — ДАТЭРМІНОВА

Калектывы прамысловых прадпрыемстваў, будоўляў, транспарту і сувязі, калгасаў і дзяржаўных гаспадарак, прадпрыемстваў гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва БССР, усебакова ацэньваючы дасягнутыя вынікі мінулага года, прынялі на 1973 год наступныя сацыялістычныя абавязацельствы:

Гадавы план па аб'ёму рэалізацыі прадукцыі выканаць датэрмінова 26 снежня 1973 года.

Атрымаць у калгасах і саўгасах з гектара пасеву: збожжавых — не менш чым 24 цэнтнеры, бульбы — 152, цукровых буракоў — 235, ільноваланкна — 5 цэнтнераў.

### ЛУКОМЛЬСКАЯ ЎДАРНАЯ

Лукомльская ДРЭС — ударная камсамольская будоўля Беларусі. Напярэдадні 1973 года гэты флагман беларускай энергетыкі дасягнуў магутнасць у паўтара мільёна кілават. Сталася гэта дзякуючы ўводу ў дзеянне чарговага пятага энергаблока.

Варта прыпомніць, што пабудова Лукомльскай электрастанцыі распачалася ў лютым 1964 года. Разам з карпусамі ДРЭС рос новы горад. Цяпер у Новалукомлі жыве 12 тысяч чалавек. Сярэдні ўзрост яго жыхароў — 23 гады, а па прафесіі найбольш у Новалукомлі энергетыкаў і будаўнікоў.

Лукомльская ДРЭС будзе разбудавана да магутнасці 5 мільёнаў кілават.

### МЕТАДАМ НАРОДНАЙ БУДОВЫ

На Мінскім аўтамабільным заводзе шырокае развіццё атрымала ўзвядзенне дамоў метадам народнай будовы. У ім удзельнічаюць тысячы інжынераў, служачых і рабочых прадпрыемства. Грошы на будаўніцтва выдзяляюцца ад прыбытку завода. З 1954 года аўтазаводаўцы пабудавалі такім метадам 1820 кватэр.

### НА ЭКСПАРТ

Мінскі электратэхнічны завод імя В. Казлова ў мінулым годзе адправіў у Егіпет каля трох тысяч камплектных трансфарматарных падстанцый, якія былі спраектаваны і выраблены з улікам асаблівасці іх эксплуатацыі ва ўмовах высокіх тэмператур і павышанай запыленасці. Усяго да канца пяцігодкі завод адправіць у АРЭ звыш 15 тысяч такіх падстанцый.

### АДАМ МІЦКЕВІЧ І ШАШКІ

У лютаўскім нумары беларускага часопіса «Маладосць» знаходзім цікавыя заўвагі майстра спорту СССР Мікалая Грушэўскага аб адносінах вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча да гульні ў шашкі.

«А. Міцкевіч, — адзначае М. Грушэўскі, — бачыў у шашках перш за ўсё цікавы занятак і добрую магчымасць карысна правесці час, калі на дварэ гуляе завіруха, альбо імжыць дождж. Лічыў ён, што шашкі даюць вялікі зарад бадзёрасці і цудоўнага настрою». Майстар спорту СССР прыпамінае, што А. Міцкевіч з'яўляецца аўтарам паэмы «Шашкі». (вр)



## ПОЛЬШЧА

### РАСПАЧАЛІСЯ ВАЯВОДСКІЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

Першая ваяводская справаздачна-выбарная канферэнцыя ПАРП адбылася ў Катавіцах. Прысутнічаў на ёй Эдвард Герэк, які быў дэлегатам на катавіцкую канферэнцыю.

Катавіцкая партыйная арганізацыя належыць да перадавых у краіне. Гэта раён вялікай прамысловасці. Рабочы клас тут моцна з'яднаны пад ідэямі партыі. Катавіцкая арганізацыя ПАРП налічвае звыш 300 тыс. членаў. Дыскусія была вельмі багатая і канцэнтравалася вакол гаспадарчых спраў. Найбольшыя сённяшнія інвестыцыі раёна — гэта гута «Катовіцэ», фабрыка маалітражных самаходаў, разбудова рыбніцкай вугальнай акругі «РОВ».

На канферэнцыі выступіў І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк. Як заўсёды, выступленне І сакратара было канкрэтнае, багатае, шчырае і дадаючае сіл для далейшай працы. Ён моцна падкрэсліў ролю рабочага класа і яго авангарду — партыі для развіцця нашай краіны. Асаблівая актывізацыя рабочых праявілася пасля VI з'езду партыі. Тав. Э. Герэк сказаў, між іншым: «Мы пачалі вялікую работу па аднаўленню дзяржаўнай адміністрацыі на вёсцы. Многа яшчэ трэба зрабіць, каб умацаваць новыя гміны, каб знайсці добрыя формы іх працы, каб злучыць усе элементы прадукцыйнага, грамадскага і культурнага развіцця вёскі. Гэта цяпер галоўнае заданне партыйных камітэтаў і дзяржаўных органаў на вёсцы».

Таксама ў мінулым тыдні адбылася другая ваяводская канферэнцыя — у Аполі, дзе працуе 76-тысячная партыйная ваяводская арганізацыя. Стаяла тут справа прамысловага і сельскагаспадарчага развіцця раёна. Апольскае ваяводства з'яўляецца адным з найлепшых, найбольш прадукцыйных сельскагаспадарчых раёнаў у Польшчы. На канферэнцыі прысутнічалі старшыня Рады Дзяржавы праф. Г. Яблонскі і сакратар ЦК Ф. Шляхціц.

### ПРЭМ'ЕР ФІНЛЯНДЫІ Ў ПОЛЬШЧЫ

Па запрашэнню прэм'ера ПНР Пятра Ярашэвіча прыязджаў у Польшчу з афіцыяльным візітам прэм'ер Фінляндыі Калеві Сорса. Размовы госця з нашымі ўладамі датычылі міжнароднай сітуацыі (Фінляндыя вядома сваімі мірнымі ініцыятывамі) і польска-фінляндскага супрацоўніцтва. Быў падпісан дагавор ад культурным і навуковым супрацоўніцтве.

Прэм'ера Фінляндыі прыняў І сакратар ЦК партыі Э. Герэк і старшыня Рады Дзяржавы ПНР Г. Яблонскі. Адзін дзень Калеві Сорса адпачываў у Закапаным.

### V З'ЕЗД ЗГП

Саюз польскіх гарцэраў налічвае 2 мільёны членаў — зухаў, гарцэраў і інструктараў. Да ЗГП належыць 63 працэнты вучняў пачатковых школ на вёсцы і 34 працэнты ў горадзе. Найбольшая гарцэрская харугвія ёсць у Катавіцкім ваяводстве — 182 тысячы членаў.

З вялікім плёнам польскія гарцэры прыйшлі на свой V з'езд, які адбыўся ў Варшаве. Прыехала 817 дэлегатаў. Даклад прадставіў начальнік ЗГП С. Багдановіч. Выступіў таксама прафесар Г. Яблонскі, які з'яўляецца старшынёй галоўнай рады гарцэрства. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП У БЕЛАСТОКУ

У суботу, 10 сакавіка, у Беластоку адбыўся пленум Ваяводскага камітэта ПАРП, прысвечаны абмеркаванню і зацвярджэнню справаздачы ВК ПАРП на XIV ваяводскую справаздачна-выбарную канферэнцыю ПАРП, якая адбудзецца ў пачатку красавіка. Пленум адбыўся пасля сходаў у падставовых партыйных арганізацыях і павятовых справаздачна-выбарных канферэнцый. Справаздачу аб працы ваяводскай партыйнай арганізацыі за мінулыя два гады прадставіў сакратар ВК ПАРП Уладзіслаў Юшкевіч. Сакратар ВК Яўгеній Златажынскі прадставіў праект праграмы святкавання XXX гадавіны ПНР на Беласточчыне.

### ВЯЛІКІ КОНКУРС «ГАЗЕТЫ БЕЛАСТОЦКАЙ».

Беластоцкае ваяводства мае падставы, каб ганарыцца сваімі дасягненнямі. Доказам гэтага можа быць тое, што менавіта ў нашым ваяводстве адбудуцца ў гэтым годзе цэнтральныя дажынкі. Для ўсіх нас вельмі важна, каб Беласток і ўсё ваяводства зрабілі як найлепшае ўражанне на сваіх гасцей. Таму «Газета Беластоцкая» абвясціла вялікі конкурс на найлепшыя ідэі адносна арганізацыі цэнтральных дажынак. Было б вельмі добра, каб свае прапановы падало як найбольш жыхароў Беласточчыны. Галоўная іх задача — выказаць сваю думку аб тым, як, якім спосабам паказаць гасцям дасягненні нашай сельскай гаспадаркі, прамысловасці, культуры, як упрыгожыць горад, вітрыны магазінаў, як паказаць дасягненні беластоцкай навуковай і тэхнічнай думкі, як разрэкламаваць прыгажосць і свежасць нашых краявідаў і г.д. Першыя прапановы жыхароў Беласточчыны змясціла ўжо «Газета Беластоцкая» ад 10 сакавіка 1973 года. Пераможцаў конкурсу чакаюць цікавыя і каштоўныя ўзнагароды.

### ВАЯВОДСКІ З'ЕЗД РАМЕСНІКАЎ

У пятніцу, 9 сакавіка ў Доме рамесніка адбыўся ваяводскі з'езд рамеснікаў. У з'ездзе прыняло ўдзел шмат гасцей, а, між іншым, член экзекутывы ВК ПАРП, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Уладзімір Міхалюк, старшыня ВК СД Здзіслаў Пукорскі і іншыя. У дыскусіі на з'ездзе шмат увагі было прысвечана шырэйшаму супрацоўніцтву рамесных арганізацый з гмінамі. Супрацоўніцтва гэтае дазволіць лепш выкарыстаць паслугова-прадукцыйны патэнцыял рамесных варштатаў з карысцю для ваяводства.

### УЛАДЗІСЛАЎ КОМАР У БЕЛАСТОКУ

Па традыцыі ў сакавіку ўрачыста адзначаем Дні алімпійца. У Беластоку галоўнае мерапрыемства адбылося 12 сакавіка ў кінатэатры «Звёнзковец». Адбылася сустрэча з залатым медалістам алімпіяды ў Мюнхене Уладзіславам Комарам. Сустрэчу вёў рэдактар Яцэк Жэмантоўскі.

### ЦУКРОЎНЯ Ў ЛАПАХ — ПРАЗ 500 ДЗЁН

Будаўнікі, якія працуюць на будове цукроўні ў Лапах, абавязаліся закончыць будову 22 ліпеня 1974 года, гэта значыць, на два месяцы раней плана. Такое абавязацельства прынялі яны ў сувязі з 30-годдзем ПНР. (ач)





NIEDZIELA 18.III.

7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy 8.10 „Przypominamy, radzimy”. 8.20 „Alarm przeciwpożarowy trwa”. 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Muzy bez etatu” — mag. poświęcony ruchowi artystycznemu. 10.50 PKF. 11.00 „W starym kinie” — „Czarny pirat” — film arch. 12.00 Dziennik. 12.15 „Przemiany”. 12.45 Dla dzieci: L. J. Kern — „Początek końca” odc. VII („Karampuk”). 13.20 „Zrodził nas czyn” — estrada publ. w rocznicę ZWM. 13.50 Losowanie numerów Totolotka. 14.00 „Turniej Politechnik” — finał. 15.10 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 18.10 „Kryteria”. 18.25 „Piosenka dla Ciebie”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wojna i pokój” — film fab. radz. cz. IV — „Pierre Bezuchow”. 21.35 „Caregiele” czyli Ballady Jerzego Medyńskiego do muzyki Jerzego Wasowskiego. 22.10 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 19.III.

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 13.55 Przerwa. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec”, „Obserwatorium”. 17.25 „Echo stadionu”. 17.50 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Słowacki — „Beatryks Cenci”. 22.15 „Ex libris”. 22.45 Dziennik.

WTOREK 20.III.

10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Łowickie wycinanki”. 10.20 „Wojna i pokój” — film fab. radz. cz. IV — „Pierre Bezuchow”. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — E. Ionesco „Nosorożec”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.45 Sprawozdanie z międzynarodowego meczu piłki nożnej Polska—USA. 18.45 POLITYKA DLA WSZYSTKICH. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Mały uciekinier” — film fab. USA. 21.30 Program dokumentalny. 22.00 „Wieczór z Diahann Carroll”. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 23.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin.

ŚRODA 21.III.

9.30 „Mały uciekinier” — film fab. USA. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia— „Polska pierwszych Piastów”. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Pole magnetyczne”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt”. 14.00 „Wybieramy zawód”. 15.20 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Spotkanie na trampolinie”. 17.10 Dla dzieci: „Małe kino”. 17.35 „Informacje, Towary, Propozycje”. 17.55 „Sylwetki X Muzy” — Wojciech Kilar. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Postawy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: M. Żuławski — „Miłość” („Opowieści mojej żony”). 20.25 „Spisek Maleta” — film franc. („Szpieg cesarza”) odc. VI. 21.20 „Świat i Polska”. 22.05 „Konkurs” rep. z Międzyn. Konkursu Skrzypcowego im. H. Wieniawskiego w Poznaniu. 22.35 Dziennik. Wiadomości sportowe.

CZWARTEK 22.III.

9.55 „Spisek Maleta” — film franc. (Szpieg cesarza”) odc. VI. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Stanisław Moniuszko”. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Konstanty Ildefons Gałczyński”. 14.00 Matematyka w szkole: „Mnożenie i dzielenie liczb” cz. I. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 PKF. 17.55 „Bursianie, bursiańska śleboda” („Zwyczaje i obrzędy”). 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Śląskie trójmiasto”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Taryfa nocna” — film fab. franc. 21.40 „Wiosna 73”. 22.15 „Ekspress nr. 22”. 22.45 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.15 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 23.50 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt.

PIĄTEK 23.III.

8.25 „Taryfa nocna” — film fab. franc. 9.55 Dla szkół: (kl. I-III lic.) Wychowanie techniczne — „Technika w rolnictwie”. 10.55 Dla szkół: (kl. III) „Cywil, Szarik i inne”. 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Polska pierwszych Piastów”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora”. 17.25 „Nie tylko dla pań”. 17.45 „Śpiewa Elżbieta Poniatowska”. 18.15 „Turystyka i wypoczynek”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Orbita”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kominiarz przynosi szczęście” — program rozr. radz. 20.35 Panorama Tygodnia. 21.15 Teatr TV: M. Gogol — „Płaszcz”. 22.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

SOBOTA 24.III.

9.10 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Dama Kameliowa”. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Mongolia”. 14.15 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 14.50 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Starcie” — Czy lubisz poezję?. 17.40 „Spotkania z przyrodą”. 18.10 „Bieg po zdrowie”. 18.35 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Teatr Rozrywki: W. Dychawiczny i M. Słobodskoj oraz W. Massa i M. Czerwiński — „Debiutantka” — wodewil. 21.45 Dziennik. Wiadomości sportowa. 22.15 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Dama Kameliowa”.





**Piątek, 16 marca**

8.45 Film. fab. 11.10 Szkoła szachowa. 11.40 Filmy dokument. 14.00 Program dnia. 14.35 Koncert. 16.50 Film animowany dla dzieci. 17.30 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Koncert M. Magomajewa. 20.30 Balet.

**Sobota, 17 marca**

7.00 Program dnia. 7.30 Białe i czarne. 8.00 Przegląd międzynarodowy. 10.25 Stare filmy. 12.45 Filmy animowane. 13.30 Zdrowie. 14.00 Ekran i czas. 15.10 Film animowany dla dzieci. 16.10 W świecie zwierząt. 17.30 Spektakl TV. Część I. 19.00 Czas. 19.30 Spektakl TV. Część II. 21.00 Program sportowy.

**Niedziela, 18 marca**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 9.00 Film animowany. 9.30 W eterze „Młodość”. 11.00 Film fab. 13.40 Piosenka — 73. 15.00 Klub filmowy. 16.40 Koncert. 17.40 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Film TV. 21.00 Program sportowy.

 

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА




Перад вучонымі Беларусі ў гэтай пяцігодцы (1971—1975 г.г.). пастаўлены вялікія і адказныя задачы. Акадэмія навук БССР, вышэйшыя навучальныя ўстановы, навукова-даследчыя, праектна-канструктарскія і тэхналагічныя арганізацыі канцэнтруюць свае намаганні на расшырэнні актуальных праблем навукова-тэхнічнага прагрэсу, і ў першую чаргу ў галіне матэматыкі, кібернетыкі, вылічальнай тэхнікі, фізікі, машынабудавання і прыборабудавання, энергетыкі, хіміі, сельскай гаспадаркі і меліярацыі зямлі.

Над вырашэннем пастаўленых задач працуе вялікі калектыў вучоных Беларусі. Цяпер у рэспубліцы налічваецца 178 навуковых устаноў, у тым ліку 28 вышэйшых навучальных устаноў. У гэтых установах працуе каля 24 тысяч навуковых супрацоўнікаў і выкладчыкаў, сярод іх больш 6 тысяч дактароў і кандыдатаў навук. Самым буйным навуковым цэнтрам рэспублікі з'яўляецца Акадэмія навук БССР. У пяці яе аддзяленнях (грамадскіх, фізіка-матэматычных, фізіка-тэхнічных, біялагічных, хімічных і геалагічных навук) аб'яднаны 32 навукова-даследчыя ўстановы.

У Інстытуце фізікі праводзяцца глыбокія тэарэтычныя і эксперыментальныя доследы ў галіне квантавай электронікі, атамнай і малекулярнай спектраскопіі, люмінісцэнцыі і фотахіміі, оптыкі рассейваючых асяроддзяў, спектраскопіі, нізкатэмпературнай плазмы, оптыкі і акустыкі крышталаў. У гэтым інстытуце была прадказана, а пасля адкрыта новая фізічная з'ява — здольнасць раствораў складаных арганічных спалучэнняў да генерацыі свету. На гэтай аснове былі створаны новы клас лазераў, дазваляючы атрымаць праменяванне ў шырокім дыяпазоне даўжыні хваляў з плаўнай перастройкай частаты. Гэтыя лазеры ўжо знаходзяць прымяненне як у навуковых доследах, так і на практыцы.

Гэта праца ўдастоена высокай узнагароды — Дзяржаўнай прэміі СССР 1972 года.

У Інстытуце матэматыкі побач з глыбокімі тэарэтычнымі доследамі па дыферэнцыяльных ураўненнях, алгебры і тэорыі лічбаў, выкананы вялікія па аб'ёму і значэнню працы па матэматычнаму забеспячэнню найбольш распаўсюджаных у СССР ЭВМ серыі «Мінск». Істотны ўклад унёс гэты інстытут у распрацоўку тэорыі аўтаматычнай рэгуліроўкі. Развіты новы падыход да тэорыі ўстойлівасці руху, распрацаваны новыя эфектыўныя метады стабілізацыі рэгулюемых сістэм. Гэта праца таксама ўдастоена Дзяржаўнай прэміі СССР 1972 года.

Інстытут тэхнічнай кібернетыкі стварае аўтаматызаваную сістэму праектавання і тэхнічнай падрыхтоўкі вытворчасці ў машынабудаванні.

У фізіка-тэхнічным інстытуце атрыманы сур'ёзныя вынікі ва ўстанаўленні агульных заканамернасцей будовы металаў і сплаваў і стварэнні новых працэсаў апрацоўкі матэрыялаў. У інстытуце зроблена навуковае адкрыццё ультра-гукавога эфекту, сутнасць якога заключаецца ў павелічэнні хуткасці руху і высаты пад'ёма вадкасцей у капілярах пад уплывам ультрагука, у дзесяткі разоў пераўзыходзячым дзеянне радыяцыйнага ціску. Гэта адкрыццё мае вялікае значэнне для многіх галін навукі і тэхнікі.

Атрымалі шырокае прызнанне і ўкараненне ў вытворчасць даследаванні вучоных Акадэміі навук БССР па механіцы палімераў і распрацоўцы інжынерных метадаў разліку металапалімерных канструкцый і дэталяў машын.

Геолагі, геафізікі і геахімікі Беларусі правялі ўсебаковыя даследаванні нетраў рэспублікі і даказалі яе перспектыўнасць на розныя віды карысных выкапняў. У Беларусі адкрыта некалькі месцанараджэнняў нафты і створана новая галіна прамысловасці — нафтаздабываючая. Беларуская нафта па нафтаправоду «Дружба» пацякла ў Польшчу, Чэхаславакію, ГДР і Венгрыю. Адкрыты буйныя месцанараджэнні калійных солей (Старобінскага і Петрыкаўская). На базе Старобінскага месцанараджэння працуюць тры камбінаты, даючы прыкладна 50 працэнтаў усіх калійных угнаенняў, якія прадукуюцца ў СССР. Адкрыты паклады жалезных руд, бурага вугалю, гаручых сланцаў і інш.

У палапшэнне спосабаў перапрацоўкі калійных руд унеслі сур'ёзны ўклад вучоныя Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР. Імі распрацаваны і сумесна з работнікамі аб'яднання «Беларуськалій» укаранёны ў прамысловым маштабе новыя рэагенты для флатацыі калійных руд. Эканамічны эфект ад укаранення гэтых прац склаў каля 4,5 млн. рублёў у разліку на год. Хімікі рэспублікі вядуць таксама шырокія доследы ў галіне каталізу, нафтахіміі.

Сярод важнейшых навуковых праблем Беларусі асобае месца займае праблема комплекснага асваення Палескай нізіны. Палеская нізіна ахоплівае 13 млн. гектараў. У яе прыродным ландшафце пераважаюць забалочаныя лугавыя ці лясныя раўніны, тарфяныя масівы, развеваемыя пяскі і паволі цякучыя рэкі. Пастаўлена задача карэннага пераўтварэння прыродных умоў гэтага краю з мэтай далейшага інтэнсіўнага развіцця яго вытворчых сіл. Толькі ў беларускім Палессі намечана меліяраваць каля 3 млн. га забалочаных зямель і зямель з завялікай вільготнасцю, на плошчы ў 1,6 млн. га пабудаваць сучасныя сістэмы навадненння і больш 400 буйных і дробных вадасховішчаў, стварыць 70 саўгасаў. Навуковае і практычнае вырашэнне праблемы выклікала неабходнасць уключэння ў работу звыш 30 навукова-даследчых інстытутаў, вузаў і праектных арганізацый рэспублікі. Каардынацыя навуковых доследаў на Палессі ажыццяўляецца Акадэміяй навук БССР.

*А. Махнач,*
*акадэмік Акадэміі навук БССР*



*Будынак Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР.*




## СВЕТЛЫЯ КОЛЕРЫ

Вясною, бадай як у ніводную пару года, хацелася б купіць, або пашыць сабе нешта новае: паліто, касцюм, сукенку. Мода гэтага года абапіраецца на светлых, далікатных колерах. Яна лёгкая, простая і сапраўды жаночая. На шчасце, пасля доўгага перыяду, калі праектавана ўсё з думкай аб шчуплай дзявочай фігуры, дыктатары моды прыпомнілі сабе аб жанчыне дарослай, якая хацела б і павінна апранацца крыху інакш, чым яе дачка або малодшая сястра.

На вясну пры нагодзе варта напомніць, што элегантная жанчына з прапанаваных модных мадэляў выбірае заўсёды тое, што падкрэслівае яе прыгажосць, а не наследуе слепа моду з журналаў. Жанчына, якая бескрытычна шые сабе сукенку без «прымеркі» яе ў думках да сваёй фігуры, часта выглядае смешна.

Мода гэтага года спакойная. Агульная лінія засталася ў асноўным без змен: верх дапасаваны, а ніз расшыраны. Вопратка шыецца лёгкая, мяккая прылягаючая да цела. Мода «максі» на лета не прынялася, і ўсе сукенкі будзем насіць найчасцей вышэй калена.

Веснавыя паліто маюць амаль класічны фасон. У касцюмах пераважаюць доўгія, даволі вузкія жакеты, да якіх носім плісаваную спаднічку. Да гэтага ўбору варта было б пашыць спартыўную блузку з гальштукам. Нельга аднак пры гэтым забывацца, што ў доўгім жакеце з плісаванай, шырокай спаднічкай добра будуць выглядаць толькі жанчыны высокія і шчуплыя.

Штаны надалей вельмі модныя (нават на вечар), і аб гэтым мы будзем яшчэ пісаць асобна.

Касцюмы і паліто шыем у гэтым сезоне з аднакаляровай шэрсці, з розных клетак. Вельмі модныя колеры: белы, крэмавы, салатавы, ружовы, блакітны. З цёмных колераў далей вельмі модны колер цёмнасіні, часта спалучаны з белым, а таксама фіялетавы розных адценняў і ў спалучэнні з жоўтым.

*Сяброўка*






Апоўначы Альтэнкірх спыніўся і зірнуў на гадзіннік.

— Калі ўсё ідзе добра, — сказаў ён, — у гэты момант самалёты скідаюць груз.

Ён не памыляўся. Якраз у гэты самы час за дваццаць кіламетраў на поўнач ад іх два лётчыкі на «Хейнкелях-III» шукалі вачыма сігнальныя агні і раптам убачылі, як адзін за другім успыхнулі чатыры яркія вогнішчы, утварыўшы не зусім правільны чатырохвугольнік. Лётчыкі скіравалі самалёты ў той бок і скінулі на парашутах груз — чорныя сухары, мясныя кансервы, вітамін «С» у таблетках, масла, сыр, абутак, цыгарэты, патроны для аўтаматаў і пісталетаў, ручныя гранаты, узрыўчатку. Людзі, што запалілі вогнішча, дзелавіта адчэплівалі пакі і скрыні ад парашутаў.

А за дваццаць кіламетраў на поўдзень ад таго месца пяць чалавек працягвалі свой цяжкі шлях праз лес. Вайтхазе і Альтэнкірх падбадзёрвалі астатніх, заклікаючы іх выдужаць, таму што да світання было ўжо недалёка і нельга было траціць ні мінуты. Перад чыгуначным насыпам яны пастаялі некалькі мінут, прыслухоўваючыся, потым шоргаючы ботамі па гравію, падняліся і перабеглі палатно.

Той ноччу большай часткай маўчалі. Кожны стараўся вызначыць сваю ролю ў тым, што адбываецца, угадаць, што яго чакае ў будучыні.

Будэр у думках разблытваў клубок выпадковасцей актаў самааховы і адважных учынкаў, што прынеслі яму славу надзейнага салдата, дзякуючы якой яго цяпер паслалі ў гэтыя лясы, выбрацца адкуль не такая лёгкая справа.

Альтэнкірх маляваў сабе імклівы прарыў групы Грэльхамера на захад і ў думках размеркаваў ордэны: Грэльхамеру «Дубовы ліст», сабе — «Рыцарскі крыж», Будэру — «Нямецкі крыж у золаце».

Вайтхазе абдумваў, што трэба будзе рабіць заўтра і паслязаўтра, перабіраў у думках усе нечаканасці, якія могуць яго падпільноўваць, але не дапускаў думкі, каб што-небудзь магло парушыць яго планы. Адно трывожыла — занадта ўжо гладка ўсё пакуль што ідзе.

Цяжкія думы апанавалі старшага лейтэнанта Чырвонай Арміі Сяргея Мартынава. Ноччу ён меў дзесяткі зручных выпадкаў, каб збегчы ад гэтых фашыстаў. Большай часткай яны трымалі яго ў сярэдзіне. Але, калі пераходзілі ручай, калі перабягалі цераз чыгунку, і ў шмат якіх іншых выпадках ён на нейкі момант аказаўся ззаду, альбо крыху з боку ад іх. У тыя імгненні ён мог знікнуць у цемры і іх кулі яго б не знайшлі. Нарэшце, і за гэтыя дні ў яго было безліч магчымасцей, ён мог усіх да аднаго перастраляць гэтых фашыстаў, перш чым каму з іх удалося б націснуць на спуст.

«Забі іх!» — час ад часу гаварыў ён сабе. Але кожны раз яго спыняла думка пра тое, як мала ён яшчэ ведае. Яму было вядома, што група Грэльхамера ў цяперашні момант налічвае 1200 баяздольных салдат і афіцэраў, аднак дзе яны хаваюцца, дакладна ён не ведаў. Як ён разумеў, штаб Грэльхамера знаходзіцца на адлегласці аднаго начнога пераходу ад іхняга першага лагера. Але якая з таго карысць? Дакладных даных ён не мае. Гэтай ноччу, відаць, самалёты скінулі прадукты і боепрыпасы, але дзе, у якім месцы? Безумоўна, савецкія людзі заўважылі варожыя самалёты і зразумелі, што нехта выклікаў іх у гэтыя лясы. Значыць, тое, пра што ён пакуль што даведаўся, для іх і без яго не сакрэт.

Але калі цябе схопяць, табе канец! Гэта трывожная думка настойліва свідравала мозг Мартынава, і першы час яму каштавала вялікіх намаганняў адагнаць яе, каб яна не замінала здзяйсненню яго плана. Аднак, чым больш часу ён знаходзіўся ў групе Альтэнкірха, тым радзей яна даймала яго. Усё прадугледзець нельга. Без рызыкі выйсця з гэтай сітуацыі не знойдзеш. Мартынаў пачаў спакойна разважаць пра ўсё, што адбылося, і стараўся прадбачыць, што можа здарыцца ў будучым. Перабіраў па костачках Альтэнкірха і Будэра, Франке і Вайтхазе. Асабліва многа ўвагі ўдзяліў апошнім. З тае пары, як да іх далучыўся Вайтхазе, Мартынаў амаль нічога новага не дазнаўся. Раней Альтэнкірх быў з ім больш шчыры, аднойчы нават адпусціў яго аднаго блукаць па мясцовасці. Амаль усё, што ведаў Альтэнкірх, ведаў і Мартынаў. Аднак з таго часу, як да іх з'явіўся гэты оберлейтэнант, Мартынава амаль што ізалявалі — утойвалі змест радыёграм і ні на момант не спускалі з яго вачэй. Як яны яшчэ зброю пры ім пакінулі! Думка гэ-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### КРАМА-ЦЯМНІЦА

У Кнышэвічах Сакольскага павету крама ў прыватным будынку. Калі праводзілася электрыфікацыя Кнышэвіч, гэты дом быў апушчаны. Уласнік яго жыве ў Валілах. І дом не быў электрыфікаваны. Потым ГС у Крынках наняў гэты дом пад краму. І цяпер крама без электрычнага асвятлення. ГС не праводзіць электрычнасці, спасылаючыся на тое, што будынак прыватны. А ўласнік будынка ж у Валілах, і яму асветленая крама ў Кнышэвічах непатрэбная.

Найторш прадаўшчыцы. Восенню і зімой мусіць лямпу паліць цэлы дзень. Бо яна скупляе яйкі і вымушана прасвятляць іх пад закопчанай лямпай. Не раз свежыя яйкі звяртае як папсутыя. Узнікае калатня і злосць на прадаўшчыцу, што кепска яйкі прымае. А яна пры закопчанай лямпе прасвятліць іх не можа.

*А. С.*




### ДА ДЗЕДА МАРОЗА

Студзень ужо ўцёк адсюль,
Меў студзіць, а не марозіў.
Дзед сварыўся з бабаю дасюль,
Санкі выцягнуць, ці возік?

Ну, і вырашыў на канец
Паслаць пісьмо да Мароза,
Запытаць яго: цяпер
Санкамі ездзіць, ці возам?

Дзед Мароз, ты не жартуй з нас,
Цяпер люты, а не май.
Мо марозіць ўжо не хочаш,
Дык зусім ад нас ўцякай.

Ўночы снег дробненька сееш,
Лёдзік крышачку скуеш,
А дзе мяцеліцы, завеі?
Лютым ты ж сябе завеш!

Вада хлюпае, балота,
Льюцца ручаі са стрэх.
Спутала цябе лянота,
А сядзець бясчынна грэх.

Можа, час ты дрэнна мерыш,
Маеш дрэнны каляндар?
Што цяпер зіма — не верыш,
Дык людзей ты папытай.

Людзі зараз будуць сеяць,
Ў агародах прыбіраць,
Тады ветры, снег, завеі,
Будзеш ты нам пасылаць.

*Юрка Панасюк,*
*Бельск*

тая здзіўляла яго не менш, чым тая абыякавасць, з якой ставіўся да яго Вайтхазе.

Калі, нарэшце, дабрылі ў вызначаны ім сектар лесу, усе ў знямозе паваліліся на зямлю. Ледзь хапіла сіл скінуць з плячэй рамяні ношаў. Яны дабраліся да лесу якраз у пару, бо макаўкі дрэў запунсавелі ўжо ад першых промняў сонца, і птушкі на ўсе лады распачалі свой ранішні канцэрт. Вайтхазе падрадзіўся ўзяць на сябе першую, самую цяжкую, вахту. Калі ўсе паснулі, ён пачаў уважліва разглядаць іхнія твары — дабрадушны, але цяпер крыху апатычны твар Будэра, энергічны твар Альтэнкірха з нервовымі складкамі ля ноздраў, рашучыя рысы Мартынава. Аднак даўжэй за ўсё позірк Вайтхазе затрымаўся на аблічча Франке.

«Кепска ж выглядае юнак, — падумаў ён. — Аднак, калі я ў першы раз сустрэў яго, ён быў амаль такі ж кашчавы, напэўна, ад роду такі. Але ясна відаць, што ён зусім змардаваны. Паўгода назад яму прастрэлілі лёгкія і як толькі падняўся, яго зноў паслалі на фронт. Калі знайду для гэтай работы каго іншага, адразу ж пашлю яго назад. Нельга ж, на самай справе, ганяць яго ледзь не кожную ноч на такія адлегласці. Праўда, не так што і проста знайсці яму замену. Франке вынослівы, і для справы, якая патрабуе вытрымкі, мужнасці і розуму, ён чалавек незаменны».

*(Працяг будзе)*

### ДАРОГА Ў СПІЧКІ

Я хачу вам апісаць
Спічкоўскія дарогі,
Імі нельга праязджаць —
Конь паломіць ногі.

На нашай дарозе
Ёсць многа балота,
Ходзім у трывозе,
Ісці неахвота.

Да Парцава ў школу
Ходзіць вучняў многа,
Ідуць яны і стогнуць:
— Ці ж гэта дарога?!

Выглядаюць брудна,
Як пройдуць праз поле.
Як хадзіць тут трудна,
Як вучыцца ў школе?

А у гміне ў Орлі
Ўсе сядзяць, віно п'юць.
На нашу дарогу
Вокам не зірнуць.

Пуста ў склепе нашым,
Няма тут нічога,
Няма хлеба, кашы,
Віноўна дарога.

*Бяздольны*




*Дарагое «Сэрцайка»!*

Мне споўнілася 20 год. Была я замужам, аднак разам жылі мы вельмі мала, толькі два месяцы. Пасля я пакінула мужа і пайшла жыць да бацькоў. Праз год муж падаў на развод. Адбылася судовая справа, і развод Вася атрымаў. І вось цяпер я бачу, як дрэнна я зрабіла, адыходзячы ад яго, але тады я не здавала сабе з гэтага справы. Нявыгадна мне жыць і ў бацькоў, бо разам з імі таксама жыве мая замужняя сястра з мужам. Гаспадарка ў нас даволі добрая, і яны ўжо пераняалі яе ад старых бацькоў. Цяпер не ведаю, што рабіць, мо выйсці мне замуж за іншага хлопца?.. Бо, хоць я і разведзеная, але сватаўся да мяне хлопец з суседняй вёскі. Аднак я не згадзілася за яго выйсці. Праўду кажучы, не маю я ні адвагі, ні ахвоты выходзіць замуж за яго, ані за каго іншага, бо я кахаю Васю. А што так сталася з намі, гэта толькі мая віна. Але я яе бачу цяпер, калі ўжо позна. Не разумела я сямейнага жыцця. Васевы заўвагі, якія былі слушныя, я тады ўважала за дрэнныя. Павучыць мяне не было каму. Вася — хлапец разумны, вясёлы, спрытны да ўсялякай работы. Не магу сабе даравацъ, што я сама сабе нарабіла. А мо пайсці да Васі, перапрасіць яго і бацькоў? Можа, згадзіліся б мяне ізноў прыняць. Парай, «Сэрцайка»!

*Зіна з Бельшчыны*

Зіна! Як кажуць у народзе, «агледзеўся Гаўрыла, як паўклуні згарэла». Мінуў жа цэлы год да таго часу, калі муж падаў на развод. Чаму ж ты раней не агледзелася, а толькі пасля разводу ўбачыла, што ён такі добры хлопец. У жыцці ўсяляк бывае, як кажуць, «няма тае хаткі, каб не было звадкі», але нельга ж пры першых нейкіх дробных непаразуменнях уцякаць ад мужа, бо не заўсёды муж зараз жа прыбяжыць, ды перапросіць і забярэ назад. Твой паступак быў неразважлівы і сведчыць аб тым, што была ты маладая і зусім не падрыхтаваная да замужаства, што не здавала сабе справы з яго важнасці і паступіла лёгкадумна. Добра, што зразумела сваю памылку, толькі хоць не зрабі яшчэ другой, выходзячы замуж абы за каго. Калі Васю кахаеш, дык шукай спосабу, каб з ім спаткацца, ды паказаць сябе як найлепш. Ён жа кахаў цябе, калі ажаніўся. Можа, калі ўбачыць цябе як разважлівую, талковую дзяўчыну, дык згодзіцца пачаць усё нанава.

*«Сэрцайка»*




### ПАДРЫХТОЎКА

Нядаўна ў Дубічах Царкоўных пачалася падрыхтоўка дзяцей, якія восенню гэтага года пойдуць у першы клас. Гэтыя дзеці два разы ў тыдзень ходзяць у школу, дзе знаёмяцца са школьнымі правіламі і паводзінамі. Урокі адбываюцца па тры гадзіны і выклікаюць у дзяцей задавальненне. Напэўна яны дадуць карысць малышам і лягчэй ім будзе ў першым класе прысвойваць школьныя веды.

Вучаць настаўніцы Марыя Марчук і Надзея Несцярук.

*М. Панфілюк*

### ЯК НА ІНШЫМ СВЕЦЕ

Бакавое — гэта ляўкоўскія калёніі ў Гайнаўскім павеце. У 1971 годзе завітаў сюды інжынер, які зрабіў план электрыфікацыі хутароў. І вось у канцы 1972 года засвяціліся ў хатах электрычныя лямпачкі. Жыхары Бакавога адчулі сябе, як на іншым свеце. Забубнілі радыёпрыёмнікі і тэлевізары. Жыхары пакупляліі электрарухавікі, млынкі, сячкарні, крайзэгі, а бабам, каб лягчэй мыць бялізну — пралькі.

Яшчэ хочуць бакаўцы, каб да іх завітаў нейкі дарожны інжынер і зрабіў план на наладку дарогі Ляшукі — Бакавое — Ляўкова, каб не губіць ботаў і не грузнуць вазамі ў муле.

*Аляксандр Кузьма,*
*Бяндзюга*

### ПАПУЛЯРНА-НАВУКОВАЯ СЕСІЯ

21.II.1973 г. у беларускім ліцэі ў Бельску адбылася папулярна-навуковая сесія, прысвечаная 500-годдзю з дня нараджэння Мікалая Каперніка.

У спартыўнай зале сабралася ўся моладзь школы. На сесію прыйшлі таксама прадстаўнікі іншых школ. З дакладамі выступілі вучні: Г. Круkоўская, Я. Прызовіч, Л. Троц і Л. Гулько. Яны прадставілі эпоху, у якой жыў М. Капернік, яго жыццёвы шлях, значэнне працы польскага астранома і ўплыў яго тэорыі на далейшае развіццё астраноміі.

Дзякуючы сесіі, моладзь нашага ліцэя дакладней пазнаёмілася з тэорыяй Каперніка. А можа некаторыя зацікавяцца сучаснай астраноміяй і, як вялікі польскі вучоны, звяжуць свой лёс з гэтай навукай?

*Кастусь*




ПЫТАННЕ: Муж выгнаў жонку з кватэры і падаў на яе ў суд. Ці можа яна дамагацца, каб вярнуцца ў кватэру, у якой яна дагэтуль займала адзін асобны пакой? Ці можа дамагацца падзелу мэблі і іншых рэчаў хатняга ўжытку?

АДКАЗ: Жонка можа дабівацца праз суд магчымасці вярнуцца ў кватэру і забароны перашкаджання ёй у далейшым пражыванні ў гэтай кватэры. Паколькі муж падаў на развод, жонка можа дамагацца сваіх правоў перад судом, які разглядае справу аб разводзе. Яна павінна падаць заяву да справы аб разводзе, і суд вырашыць справу асобным распараджэннем. Такім жа спосабам можа быць вырашана справа прадметаў хатняга ўжытку. Пасля разводу праблемы гэтыя вырашаюцца асобнай справай аб падзеле супольнай маёмасці. Справа кватэры вырашаецца пры гэтым у залежнасці ад таго, ці з'яўляецца яна ўласнасцю мужа і жонкі, ці аднаго з іх, ці кватэра кааператыўная, ці належыць дзяржаве.




Я жыву ў Аўгустове, а вучуся ў II класе беларускага ліцэя ў Бельску. Я вельмі хацела б перапісвацца з вучнямі іншых школ, асабліва тымі, якія вывучаюць беларускую мову. Цікава, як адбываюцца ў іх занятк і, якія ёсць гурткі і арганізацыі, чым вучні ў іх займаюцца. Апрача гэтага, хацела б падыскутаваць з сябрамі аб фільме, спорце і музыцы. Я ўжо даўно гэтым цікаўлюся і збіраю здымкі слаўных артыстаў і спартсменаў. Збіраю таксама звычайныя паштоўкі.

Калі ў каго ёсць падобныя зацікаўленні, прашу напісаць да мяне на адрас:
Halina Wieremiejuk, w. i p-ta Augustowo-30, pow. Bielsk-Podl.




*М. Красоўскі, Малынка.* Ваш развітальны ліст, які мы днямі атрымалі, вельмі нас занепакоіў. Мы тых намераў, якія вы нам прыпісваеце, ніколі не мелі. Цэнім вас і хочам не толькі сябраваць з вамі, але і надалей друкаваць вас (абяцаем быць ліберальнымі адносна моцных слоў). Не капайцеся ў нашых «намёках». Мы вас любім.

*Н. Кучынская, Бельск.* «Муж-п'яніца» спадабаўся. Надрукуем.

*Ян Анацік, Бельск.* «А час усё ляціць» надрукуем.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Zwariowałeś Toni" (czeski), 20—21. „Zwariowana noc" (polski), 22—23. „Tam, gdzie rośnie zielony bór" (jugosł.), 24—25.

**Нараўка**
„Ballada o Cable'u Hugue'u" (USA), „Zdobywcy nieba" (radz.), 21—25.

**Нарва**
„Trup w każdej szafie" (czeski), „Bajka o Mrozie Czarodzieju" (radz.), 21—25.

**Чыжы**
„12 krzeseł" (radz.), „Perła w koronie" (polski), 21—25.

**Дубічы Царкоўныя**
„Pamiętnik szalonej gospodyni" (USA), „Gitwa o Kozi Dwór" (polski), 21—25.

**Арэшкава**
„Agent Nr 1" (polski), „Jaskółki" Węgierski), 24—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Życie rodzinne" (polski), „Sprawa trzynastu" (radz.), 21—25.

**Орля**
„Polonez Ogińskiego" (polski), „Ucieczka w milczenie" (NRD), 21—25.

**Райск**
„Przez pustynię" (polski), „Szerokiej drogi kochanie" (polski) 21—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Tajemniczy mnich" (radz.), 20—21. „Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), 22—23. „150 na godzinę" (polski), 24—25.

**Шудзялава**
„Film o miłości" (węgierski), „Małżonkowie roku II-go" (rum.), 21—25.

**Янаў**
„Księżniczka Czardasza" (węgierski), 21—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Dziewczyna z walizką" (włoski), 20—21. „Lekcja odwagi" (czeski) 22—23. „Ktoś za drzwiami" (franc.), 24—25.

**Мельнік**
„Jutro na orbitę" (radz.), 20—21. „Sokoły" (węgierski), 22—23. „Pilot helikoptera" (rumuński), 24—25.

**Мілейчыцы**
„Labirynt miłości" (radz.), 20—21. „Straszliwe skutki awarii telewizora" (czeski), 22—23. „Woda życia" (radz.), 24—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

„Sąsiedzi" (polski), „Popierajcie swego szeryfa" (USA), 21—25.

**Новы Двор**
„Doczekać zmroku" (USA), „Ulica graniczna" (polski), 21—25.




**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch", Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7.760 K-1

